**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

15 лістапада 2000 года
Цана 90 рублёў

№ 46 (2708)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі

Выдаецца з 6 красавіка 1955 года


**АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ**

**“У рэалізацыі Праекта паступовага скарачэння ўжывання азонаразбуральных рэчываў (АРР) Беларусь паказала сябе эфектыўным, сапраўды зацікаўленым партнёрам”, — адзначыла на прэс-канферэнцыі куратар экалагічных праблем Сусветнага банка (СБ) Паола МЕТА.**

## КРОК — ЗА ЗАХАДАМ?

Сусветны банк, як вядома, у маі 1997 года даў сваё афіцыйнае “дабро” на выдаткаванне нашай краіне на “азонавую справу” гранта Глабальнага экалагічнага фонду (ГЭФ) на суму 6,9 мільёна долараў ЗША.

Праект АРР складаўся з шасці падпраектаў, якія прадугледжвалі аказанне канкрэтнай, адраснай дапамогі беларускім прадпрыемствам, што выкарыстоўваюць у сваёй рабоце рэчывы, шкодныя для азонавага слоя Зямлі. У выніку праведзенай сумесна з СБ працы Міністэрству прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь удалося вывесці з ужытку каля 700 тон азонаразбуральных рэчываў на шасці прадпрыемствах краіны: АТ “Атлант”, Мінскім прыборабудаўнічым заводзе, аб’яднанні “Белгандальпрагрэс”, Мінскім вытворчым аб’яднанні вылічальнай тэхнікі, брэсцкім “Цветатроне” і пінскім “Камертоне”. Там яны ўжываліся пры вытворчасці і абслугоўванні халадзільнага абсталявання, а таксама ў якасці растваральнікаў у радыётэхнічнай прамысловасці...

Асаблівасць праекта была ў тым, што, акрамя выканання задач “азонавага плана”, прадпрыемствам аказалі грунтоўную дапамогу па вытворчасці спажывецкіх тавараў і высокатэхналагічнай прамысловай прадукцыі. А гэта дазволіла ім мадэрнізавацца і павысіць канкурэнтаздольнасць. “Атланту”, напрыклад, дзякуючы Праекту АРР, удалося захаваць лідэрства па вытворчасці халадзільнікаў сусветнага класа і павысіць экспартны патэнцыял. Іншыя ж буйныя прадпрыемствы электронікі наогул спынілі б сваё існаванне: ГЭФ дазволіў утрымацца на плыву, а вырабляемая імі прадукцыя захоўвае сёння высокую якасць. На тым жа Мінскім вытворчым аб’яднанні вылічальнай тэхнікі, дарэчы, прадукцыйнасць у 1999 годзе ўзрасла на 165 працэнтаў. Таму не дзіўна, што ўсе прадпрыемствы выказалі жаданне і надалей супрацоўнічаць з Сусветным банкам і іншымі міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі.

**Урад Беларусі ўжо прыняў адпаведныя дакументы, якія забараняюць з 1 студзеня 2000 года ўжыванне (вытворчасць, імпарт, экспарт) азонаразбуральных рэчываў.**

Наступны крок — за Захадам...

**Алесь МЯСНІКОЎ.**

**ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ**

## СКРЫПАЧ З БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Не балаваў лёс Тадэвуша Хацяловіча. Скончыўшы прафесійна-тэхнічнае вучылішча, працаваў слесарам на заводзе моталанцугоў у Даўгаўпілсе. Але неўзабаве працу прыйшлося пакінуць: цяжка захварэла маці, і Тадэвуш Іосіфавіч перабраўся да яе ў вёску Пузавічы Браслаўскага раёна. Як вядома, бяда адна не ходзіць. Памерла маці, і самога пачалі даставаць хваробы. Так і застаўся ён у матчыным доме без працы і сродкаў і нават некаторы час без афіцыйнага грамадзянства, бо дакументы з Латвіі доўга не прыходзілі. Трымаўся выпадковымі заробкамі і сваёй сціплаю гаспадаркаю.

Але і ў такой сітуацыі душа яго аказалася здатнай успрымаць прыгожае ў жыцці. Пачуў аднойчы, як мясцовы музыка на скрыпачцы іграў, і так захапіла яго мелодыя, што захацелася самому паспрабаваць. А без грошай пра скрыпку толькі марыць можна было. І адправіўся Тадэвуш Іосіфавіч да вядомага на Браслаўшчыне музыкі Дзімітрэнкі, каб зняць памеры інструмента і самому зрабіць скрыпку. Музыка, чым мог, дапамог, але да задумы паставіўся скептычна. Маўляў, нічога з гэтага не атрымаецца. І памыліўся. Шмат працы і часу запатрабавала першая скрыпка, але ж атрымалася адмысловай.

Некалькі інструментаў зрабіў майстар з той пары. Адзін з іх знаходзіцца ў экспазіцыі Браслаўскага краязнаўчага музея. А першая скрыпка заўсёды з Тадэвушам Іосіфавічам. Гучыць яна на розных святах, куды з задавальненнем запрашаюць майстра, саграває яму сэрца ў цяжкія хвіліны жыцця.

*Тэкст і фота*
**Яўгена КАЗЮЛІ.**

**СПОРТ**

♦ **ВЕЛАСПОРТ.** Услед за сенсацыйным дасягненнем на чэмпіянаце свету па велашасейных гонках у Францыі Зінаіды Стагурскай яшчэ больш ашаламляючых перамог дабілася Наталля Цалінская на сусветным першынстве па трэку ў Англіі. Нягледзячы на адсутнасць у нашай краіне свайго трэка, спецыялістаў высокай кваліфікацыі, 25-гадовая мінчанка здолела заваяваць на гэтым турніры дзве вышэйшыя ўзнагароды: у прэстыжным гіце на 500 метраў і спрынце. Рыхтаваў беларуску расійскі трэнер Станіслаў Салаўёў, а трэніравалася Наталля апошні год у Маскве ў “Крылацкім”.

♦ **НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС.** Прайшоў першы тур Еўралігі-2000—2001 па настольнаму тэнісу. Беларуская зборная, якая ўпершыню гуляе ў супердывізіёне, паспяхова стартавала. Яна атрымала перамогу ў гасцях над зборнай Польшчы — 3:1. У наступным туры беларуская зборная будзе прымаць датчан.

**Косця МАЗАКОЎ.**

**БЕЛАРУСКАМУ РАДЫЁ — 75**

## ГАВОРЫЦЬ РАДЫЁСТАНЦЫЯ «БЕЛАРУСЬ»



**15 лістапада спаўняецца 75 гадоў Беларускаму радыё. Цэлая эпоха — ад першых радыёкропак, устаноўленых у грамадскіх месцах, да сучасных радыёпрыёмнікаў, якія мае кожная сям’я. Сёння радыё — гэта самая аператыўная і даступная інфармацыя. Яно з намі паўсюдна. І цяжка нават уявіць, што калі-небудзь было па-іншаму. З нагоды юбілею мы вырашылі ўзяць інтэрв’ю ў сваіх калег з радыёстанцыі “Беларусь”, якія рыхтуюць перадачы для слухачоў замежжа.**

Заканчэнне на 2-й стар.

«ГР»

НА БЕЛАРУСІ ПАДПІСАЦЦА МОЖА КОЖНЫ! Індэкс 63854, кошт на І паўгоддзе 2001 года — 3090 рублёў.

У Мінску заўсёды можна набыць у магазінах “Глобус” і № 2 «Белсаюздруку» (праспект Ф. Скарыны, 44).

УКЛЮЧАНЫ Ў ПАДПІСНЫЯ КАТАЛОГІ РАСІІ, УКРАІНЫ, ЛІТВЫ, КАЗАХСТАНА, КІРГІЗІІ.

# СТАФАНІЯ МІХАЙЛАЎНА СТАНЮТА



**З жыцця пайшла непараўнальная Стафанія Станюта. Шостага лістапада 2000 года перастала біцца сэрца найстарэйшай актрысы беларускага тэатра і кіно, акадэміка Міжнароднай акадэміі тэатра, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, народнай артысткі Беларусі, народнай артысткі СССР.**

**Стафанія Станюта, якая доўгія гады і да апошніх дзён працавала ў славутым Купалаўскім тэатры, мела надзвычайны, шматгранны талент. Класічны рэпертуар, творы сучаснай драматургіі — усё было ёй падуладна. Але найбольш яна запомніцца як стваральніца глыбока рэалістычных народных характараў, дзе выявіла ў сваіх гераінях мудрасць, жыццядзейнасць, сувязь з роднай зямлёй, паказала вытокі душэўнай шчодрасці і чалавечнасці. Акрамя мноства тэатральных, на творчым рахунку выдатнай актрысы яшчэ і каля 60 роляў у кіно і на тэлебачанні.**

**Яшчэ пры жыцці імя Стафаніі Станюты набыло шмат ганаровых эпітэтаў: "жывая гісторыя тэатра", "чалавек-легенда", "таліс-ман купалаўцаў"... Але і гэтых высокіх вызначэнняў не хапае, каб дакладна перадаць і сонечны чалавечы вобраз, дзівосны акцёрскі дар, і унікальны чалавечы лёс актрысы.**

**Стафанія Станюта пакінула сцэну, пакінула сваіх гледачоў... Але яна назаўсёды застанецца гонарам нацыянальнай культуры, гонарам Беларусі.**

---

"падрыхтавана" да татальных захворванняў. Канешне, будзе зроблена ўсё, каб ёй дапамагчы і як мага хутчэй і больш эфектыўна вывесці радыяцыю з яе арганізма. Але цяпер цяжка сказаць, наколькі ўжо парушаны яе імунітэт.

*— А як жа кантроль прадуктаў харчавання ў забруджанай зоне?*

— Часта ён не ажыццяўляецца на належным узроўні. Раней у забруджаных раёнах ужывалі ежу з уласнага агарода з-за няведання. Цяпер жа гэта адбываецца з прычыны недахопу грошай для набыцця чыстых прадуктаў.

Мяне непакоіць, што апошнія тры гады ідзе ўзворванне зямлі (некалькі тысяч гектараў), якая была выведзена з сельскагаспадарчага абароту па прычыне павышанай радыяцыі. Сапраўды, знешні фон радыяцыі на глебе знізіўся, але міграцыя цэзію ідзе марудна, ён у вялікай колькасці затрымліваецца на глыбіні 20 сантыметраў і актыўна існуе на працягу 22—25 гадоў.

А яшчэ непакоіць, што зараз стымулюецца вяртанне працоўнай сілы ў зону. З-за таго, што не была распрацавана належная праграма сацыяльнай рэабілітацыі перасяленцаў, людзі, не вытрымаўшы існавання ў каменных джунглях гарадоў, вяртаюцца назад, на забруджаную, але родную зямлю.

Недастаткова праводзіцца прафілактыка захворванняў дзяцей з чарнобыльскай зоны. На пачатку 90-х гадоў большасць з іх атрымлівала вітамінныя прэпараты. Цяпер такога няма.

Час ідзе. За паслячарнобыльскія гады тыя, хто ў 1986 годзе быў дзіцём, падлеткам, ператварыліся ў людзей дзетароднага ўзросту. Нярэдка ствараюцца сем'і, дзе абодва бацькі пацярпелі ад радыяцыі. У выніку верагоднасць нараджэння ў іх хворага дзіцяці павялічваецца. Адразу пасля аварыі ішла гаворка пра магчымыя генетычныя анамаліі. Але па-сапраўднаму яны небяспечныя толькі цяпер — у другім, трэцім пакаленнях. І тут дзяржава адна не справіцца, ёй патрэбна дапамога.

*— У чым, на ваш погляд, галоўная праблема ў сферы гуманітарных ініцыятыў?*

— Па маіх назіраннях, колькасць гуманітарнай дапамогі за апошні час значна скарацілася. Зараз на Захадзе давер да дзяржаўных структур невялікі. Грамадзянская ініцыятыва за мяжой імкнецца да кантакту з грамадскімі арганізацыямі. Але дзяржава ўсё "замыкае" на сябе.

Не трэба скіроўваць усю энергію на тое, каб стварыць у свеце імідж паспяховай і стабільнай Беларусі, імідж, не падмацаваны рэальнасцю. Пры гэтым лёгка згубіць цікавасць да здароўя і праблем асобнага маленькага чалавека.

Сёлета з 512 тысяч дзяцей, якія жывуць у чарнобыльскай зоне, на дзяржаўныя сродкі прайшла аздараўленне толькі палова. Пры гэтым частка з іх адпачывала ў прафілакторыях ці ў школьных лагерах, не выязджаючы з Гомельскай вобласці. Такія дзеці павінны адпачываць у санаторыях з 5-разовым харчаваннем, эфектыўнай вітамінізацыяй і пастаянным кантролем урача. Па маіх падліках, беларускія санаторыі могуць прыняць за год 100 тысяч чалавек. Такім чынам, за свой кошт дзяржава ў стане якасна аздаравіць толькі пятую частку дзяцей з пацярпелых раёнаў. Для параўнання: сёлета дабрачынныя фонды адправілі на аздараўленне за мяжу 46 тысяч дзяцей.

*— Аздараўленне — асаблівы накірунак гуманітарнай дзейнасці?*

— І вельмі важы. Дзеці не толькі дыхаюць чыстым паветрам і ўжываюць якасную ежу. Усе нашы праграмы пабудаваны па прынцыпу актыўнага адпачынку. У паездках маленькія беларусы атрымліваюць вялізны псіхаэмацыянальны зарад. Яны бачаць свет, знаёмяцца з рознымі поглядамі на жыццё, вырываюцца з замкнёнага кола паўсядзённасці. А пасля на Беларусь і з Беларусі ў Еўропу ляцяць лісты, паштоўкі. Насуперак усяму Беларусь застаецца адкрытым грамадствам. І гэта ўсяляе аптымізм.

**Алена СПАСЮК.**

---

**АФІЦЫЙНА**

# О БЕЖЕНЦАХ

## ЗАКОН РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

*(17.06.1999)*

Решения и действия (бездействие) органов государственного управления и должностных лиц, связанные с исполнением настоящего Закона, могут быть обжалованы в вышестоящий орган и (или) суд.

Срок подачи жалобы не должен превышать один месяц со дня получения иностранцем уведомления в письменной форме об отказе в регистрации ходатайства о признании его беженцем, об отказе в признании его беженцем, об утрате статуса беженца или о лишении статуса беженца либо со дня истечения месячного срока после подачи жалобы в вышестоящий орган, если иностранцем не был получен на нее ответ в письменной форме.

До принятия решения по жалобе иностранец, подавший жалобу, и члены его семьи имеют права и выполняют обязанности, предусмотренные статьями 10 и 12 настоящего Закона, в части, не противоречащей настоящему правовому положению данных иностранцев.

Иностранец, получивший уведомление об отказе в регистрации ходатайства о признании его беженцем, об отказе в признании его беженцем, об утрате статуса беженца или о лишении статуса беженца в соответствии с настоящим Законом и использовавший право обжалования решения об отказе в регистрации ходатайства о признании его беженцем, об отказе в признании его беженцем, об утрате статуса беженца или о лишении статуса беженца в соответствии с настоящей статьей, обязан покинуть территорию Республики Беларусь совместно с членами его семьи в течение трех рабочих дней со дня получения уведомления об отказе на жалобу при отсутствии иных законных оснований для пребывания на территории Республики Беларусь.

**Статья 16. Депортация (выдворение) иностранцев за пределы территории Республики Беларусь**

Иностранец, получивший уведомление об отказе в регистрации ходатайства о признании его беженцем, об отказе в признании его беженцем, об утрате статуса беженца или о лишении статуса беженца, не использовавший право обжалования решения, а также не имеющий иных законных оснований для пребывания на территории Республики Беларусь и отказывающийся от добровольного выезда, депортируется совместно с членами его семьи за пределы территории Республики Беларусь в соответствии с законодательством и (или) международными договорами Республики Беларусь.

Иностранец, обжаловавший решение об отказе в регистрации ходатайства о признании его беженцем, об отказе в признании его беженцем, об утрате статуса беженца или о лишении статуса беженца и получивший отказ на жалобу, а также не имеющий иных законных оснований для пребывания на территории Республики Беларусь и отказывающийся от добровольного выезда, депортируется совместно с членами его семьи за пределы территории Республики Беларусь в соответствии с законодательством и (или) международными договорами Республики Беларусь.

**Статья 17. Распределение и поселение иностранцев, ходатайствующих о признании их беженцами, и иностранцев, признанных беженцами, на территории Республики Беларусь**

Поселение иностранцев, ходатайствующих о признании их беженцами и не имеющих возможности самостоятельно поселиться, осуществляется местными исполнительными и распорядительными органами на территории области (кроме города Минска) по месту нахождения территориального органа по миграции, зарегистрировавшего ходатайство.

Для поселения иностранцев, ходатайствующих о признании их беженцами, могут создаваться пункты временного поселения беженцев в соответствии с решением Правительства Республики Беларусь. Предложения по созданию пунктов временного поселения беженцев вносит республиканский орган государственного управления по миграции по согласованию с местными исполнительными и распорядительными органами.

Распределение иностранцев, признанных беженцами и не имеющих возможности самостоятельно поселиться, осуществляется в соответствии с ежегодно устанавливаемой Правительством Республики Беларусь квотой приема беженцев для каждой области и города Минска.

Жилые помещения для временного поселения иностранцев, признанных беженцами, предоставляются областными и Минским городским исполнительными комитетами в соответствии с установленной квотой по договору найма (поднайма) или аренды, заключенному с данными иностранцами на срок признания их беженцами.

Решение о предоставлении иностранцу, признанному беженцем, жилого помещения для временного поселения принимается территориальным органом по миграции в порядке, установленном в соответствии с Положением о пребывании беженцев на территории Республики Беларусь.

В случае массового прибытия на территорию Республики Беларусь иностранцев, ходатайствующих о признании их беженцами по обстоятельствам, предусмотренным абзацем вторым статьи 2 настоящего Закона, распределение и поселение данных иностранцев и условия их содержания определяются Правительством Республики Беларусь.

**Статья 18. Финансирование затрат, связанных с реализацией настоящего Закона**

Финансирование затрат на прием, оказание помощи иностранцам, ходатайствующим о признании их беженцами, иностранцам, признанным беженцами, и членам их семей осуществляется в порядке и размерах, определяемых Правительством Республики Беларусь, а также за счет поступлений от международных организаций и других государств на основе договоров (соглашений), заключаемых Республикой Беларусь, и добровольных пожертвований юридических и физических лиц.

Финансирование расходов, связанных с депортацией за пределы территории Республики Беларусь иностранцев, получивших отказ в регистрации ходатайств о признании их беженцами, отказ в признании их беженцами, утративших статус беженца, лишенных статуса беженца, и членов их семей, осуществляется за счет средств депортируемых иностранцев, а при отсутствии указанных средств — в порядке и размерах, определяемых Правительством Республики Беларусь.

**Статья 19. Международное сотрудничество по проблемам беженцев**

Республика Беларусь сотрудничает с другими государствами, Управлением Верховного Комиссара Организации Объединенных Наций по делам беженцев, иными международными организациями в целях разрешения проблем беженцев.

Если в международном договоре, заключенном Республикой Беларусь, установлены иные правила, чем те, которые содержатся в данном Законе, то применяются правила международного договора.

**Статья 20. Ответственность за нарушение настоящего Закона**

Лица, виновные в нарушении настоящего Закона, несут ответственность в соответствии с законодательством Республики Беларусь.

Настоящий Закон вступает в силу со дня его опубликования.

До приведения законодательства Республики Беларусь в соответствие с настоящим Законом оно применяется в той части, в которой не противоречит настоящему Закону, если иное не предусмотрено Конституцией Республики Беларусь.

Совету Министров Республики Беларусь в трехмесячный срок:

подготовить и внести в установленном порядке в Палату представителей Национального собрания Республики Беларусь предложения по приведению законодательных актов Республики Беларусь в соответствие с настоящим Законом;

привести решения Правительства Республики Беларусь в соответствие с настоящим Законом;

обеспечить пересмотр и отмену республиканскими органами государственного управления, подчиненными Совету Министров Республики Беларусь, их нормативных актов, противоречащих настоящему Закону.

**А. ЛУКАШЕНКО,**
**Президент Республики Беларусь.**

**Заканчэнне. Пачатак у №№ 40—45.**

---

**ЗДАРЭННІ**



Супрацоўнікамі міжраённага аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Віцебска за дзевяць месяцаў гэтага года ў выніку незаконных валютных аперацый канфіскавана амаль 11 тысяч долараў ЗША, 53 тысячы расійскіх рублёў. Імі ж раскрыты дзесяткі злачынстваў у сферы эканомікі, складзена каля 400 адміністрацыйных пратаколаў па розных парушэннях.

НА ЗДЫМКАХ: Андрэй ЛАТЫШАЎ цікавіцца паходжаннем валюты; оперупаўнаважаны Мікалай ШЫНКАРОЎ запрасіў для размовы вулічнага гандляра цыгарэтамі.



Фота Аляксандра [illegible]

**СПАДЧЫНА**

# У ЗАВОССЕ



## Ў МАРАХ ІМКНУЎСЯ...

"Дзе Завоссе? Тут у любога запытайся — адкажа, — з задавальненнем сустрэў маё пытанне сярэдняга веку дзядзька з Мелехавічаў, што месцяцца між Навагрудкам і Баранавічамі. — Ідзіце па асфальце, нікуды не збочвайце. Кіламетры два, а там ужо і Завоссе".

Падчас нашай кароткай гутаркі слова "асфальт" дзядзька вымавіў з нейкай асалодай разоў пяць. Пазней мы даведаемся, што, дзякуючы Завоссю, дарога-сцежка, якая злучае навакольныя вёскі, на ўцеху тутэйшым вяскоўцам была пашырана і заасфальтавана. Апрача таго, у вёсках, якія ляжаць усцяж той дарогі, бясплатна пафарбавалі платы, каб усё, што мае дачыненне да Завосся, выглядала прыстойна.

Гаворка — аб адноўленым пазалетась хутары Завоссе, дзе ў далёкім 1798 годзе нарадзіўся выбітны беларуска-польскі паэт Адам Міцкевіч. На месцы, дзе яшчэ некалькі год таму была пустка, сёння высіцца велічны музей-сядзіба.

Гісторыя не была літасцівай да фальварка. Яшчэ ў мінулым стагоддзі хутар пачаў пакрысе занепадаць. Першая сусветная вайна стала апошняй падзеяй, якую пабачыла старое Завоссе. Фальварак быў цалкам зруйнаваны, і неўзабаве зямля схавала сляды Міцкевічавай сядзібы.

У 1955 годзе на прыблізна вызначаным месцы колішняга фальварка ў гонар Міцкевіча ўсталявалі сціплы мураваны абеліск. Але 200-годдзе з дня нараджэння паэта было вырашана адзначыць як мае быць. Падчас праведзеных раскопак было выяўлена хацішча з рэшткамі посуду і сельскагаспадарчых прылад. Пачалося суцэльнае ўзнаўленне Завосся, найдаражэйшага для Міцкевіча месца.

Архітэктары музея-сядзібы адбудавалі Завоссе паводле захаваных малюнкаў фальварка, зробленых сучаснікамі паэта, а таксама згодна са звесткамі ў пісьмовых крыніцах, найперш у творчасці Міцкевіча. Да дакладнасці ўзнаўлення забудоў панадворка, сіметрыі ставіліся надзвычай уважліва, таму можна ўпэўнена сцвярджаць, што ўвесь фальварак адноўлены дакладна.

Угледжанае здалёк Завоссе падаецца цудам. Зробленыя з чароту стрэхі, жвіровыя сцежкі між будынкамі, свіран, стайня адразу вабяць чароўным духам беларускай старасвеччыны. Гаспадарскія забудовы, хата гаспадара поўняцца рупліваназбіранымі экспанатамі — тагачаснымі прадметамі хатняга побыту беларускай засцянковай шляхты: велічэзны гадзіннік-ходзікі, гліняны посуд, шкуры ўпаляваных жывёлаў, сельскагаспадарчы рыштунак. Усё тут зроблена сціпла, без лішку — як і было раней. Няма тут панскай раскошы, няма традыцыйных атрыбутаў побыту вышэйшых колаў, а ўсё шляхецкае добра памяшана з сялянскім. На вялікі жаль, у музеі няма рэчаў, што належалі самому паэту: яны проста не захаваліся.

"Наведвальнікаў у нас цяпер не багата, — кажа экскурсавод Святлана Дзядовіч, — але шмат гасцей з Польшчы. Палякі едуць сюды вялікімі групамі, па пяцьшэсць аўтобусаў за дзень". А ў той дзень мы былі першымі і, бадай, апошнімі наведвальнікамі Завосся.

Перажываючы пакуты эміграцыі, Міцкевіч заўсёды імкнуўся ў марах у гэты маленькі беларускі куток, які стаў для паэта крыніцай творчага натхнення. Так, Міцкевіч пісаў па-польску, як паляка яго ведае свет. Але ягоная творчасць скрозь прасякнута беларускімі матывамі, беларускую мову ён называў найбольш мілагучнай і развітой з усіх славянскіх. Проста ў той змрочны час беларусаў змалку выхоўвалі на чужой культуры. Забаранялі пісаць, друкаваць на роднай мове, але не маглі забараніць любіць Радзіму.

Старыя з суседніх вёсак кажуць, што Бог крые тутэйшыя краявіды ад буйных перамен: наваколле тут такое, як і 200 гадоў таму. Успамінаюць старую апаленую ліпу, што яшчэ нядаўна стаяла на пагорку воддаль фальварка. Яна паспела пабачыць Міцкевіча.

Раю ўсім, хто любіць Бацькаўшчыну, наведаць гэты патанулы ў пагорках "беларускай Швейцарыі" куток, які падараваў свету вялікага паэта. Прайдзіцеся па двары, пасядзіце пры сажалцы, паназірайце за наваколлем, пачытайце ўрыўкі з "Пана Тадэвуша", што вісяць на сценах у хаце гаспадара. І шмат якія пытанні атрымаюць тут свае адказы.

**Андрэй ПЕТРУШКЕВІЧ.**

**ДА 100-годдзя з дня нараджэння Нічыпара ЧАРНУШЭВІЧА**

# ЁН НЁС НАДЗЕЮ



*Нічыпар ЧАРНУШЭВІЧ у другім радзе крайні справа.*

Пасля яго смерці прайшло ўжо больш трыццаці гадоў, але яшчэ і сёння творчая дзейнасць гэтага незвычайнага чалавека недаацэнена і не атрымала аб'ектыўнага асвятлення крытыкаў і літаратуразнаўцаў. На жаль, яна і цяпер застаецца нібы ў цяні.

Нічыпар Чарнушэвіч увайшоў у гісторыю беларускай літаратуры як самабытны, таленавіты паэт і драматург. Яго творы апавядаюць пра месца чалавека на зямлі, сэнс жыцця. Асноўная іх мастацкая адметнасць — роздум, засяроджанасць на ўнутраным жыцці героя.

Праз шмат год, успамінаючы сваё нялёгкае дзяцінства, у вершы "Бацьку" паэт пісаў:

*Помню хмуры ранак,*
*у росах канюшына...*
*Толькі жаўра посвіст*
*ды шляхі, шляхі.*
*Ты глядзеў на нівы і казаў:*
*"Мой сыне,*
*Чаму мы ня разам, за чые грахі?"*

*Я ізноў на полі,*
*толькі не з табою —*
*Ты адзін бяз дзетак*
*Як увосень дуб*
*І такім-жа хмурым*
*усё шукаеш долі,*
*а шляхі ўсё тыя ж —*
*пад гару вядуць.*

*Мо стаіш і зараз перад*
*канюшынай,*
*і слязінка скаргі*
*коціцца к траве...*
*То ж зялёны нівы цябе*
*задушылі,*
*Кроў тваю па каліве выпілі за век.*

*...А перад вачыма будзе*
*ніўка тая ж,*
*што забрала сілы,*
*ды шляхі, шляхі.*

Пяру Нічыпара Чарнушэвіча належаць кнігі паэзіі "Дзіва", "Нясу надзею", "Гаворка дум", п'есы "Шукальнік вышыні", "Сям'я доктара Чыверса", кінааповесць "Арсенал пачуццяў".

Значная частка творчай спадчыны пісьменніка засталася ў рукапісах, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.

**Эмануіл ЮФЕ,**
**доктар гістарычных навук.**

* * *

***Глянь, вярба ўжо ў сукенцы***
***з пуховых каточкаў,***
***Зелянее шаўковаю стужкай***
***мяжа,***
***І ў садку з-за галін выглядаюць***
***лісточкі,***
***Як з няпэўнае норкі галоўка***
***вужа.***

***Бор прачнуўся ў ахутанай***
***сонцам прасторы***
***І рагатаю шапкай***
***з гары заківаў.***
***Над абшарам шырокім,***
***глыбокім, як мора,***
***Залаціцца,***
***іскрыцца яго галава.***

***Загубіла і рэчка свой***
***лемант змагання,***
***Бо ўжо знішчаны наследкі***
***лютай зімы,***
***І настала вясны***
***маладой панаванне,***
***І выходзіць свет любы***
***з марознай турмы.***

***Гэта кажа матылік,***
***што ўзняўся з кляніны,***
***Гэта ўранку іграе труба***
***пастуха,***
***І ляціць у неба птушкаю***
***песня дзяўчыны,***
***І прамень срэбра бліскае***
***на лемяхах.***

***Вось яно,***
***маладога жыцця адраджэнне!***
***Перавага яго і каму ж***
***не відна?..***
***Хай узгадуе з зямлі наша***
***кожнае зерне***
***У колас шчасця***
***і сённяшняй волі вясна.***
***1922—1960.***

**ШМАТГАЛОССЕ**

## АД ГЕРАДОТА ДА «АЛКЕСТЫДЫ»

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь, Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, грэчаскае нацыянальна-культурнае таварыства "Алкестыда" ў Мінску правялі міжнародную навуковую канферэнцыю "Беларуска-грэчаскія ўзаемасувязі: ад старажытнасці да сучаснасці". На канферэнцыю было заяўлена шмат дакладаў, падрыхтаваных лепшымі беларускімі гісторыкамі. Гэта адзначыў падчас адкрыцця сходу, вітаючы прысутных, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Грэчаскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Панаётыс Гумас. Дарэчы, разам з ім на канферэнцыі прысутнічалі і госці з Грэцыі, якія спецыяльна для гэтага прыбылі ў Мінск. У сваім невялікім уступным слове спадар пасол згадаў старажытнагрэчаскага гісторыка Герадота, які ў сваіх працах пакінуў вельмі каштоўныя звесткі пра многія краіны і мясціны, спадар Панаётыс Гумас зазначыў: "Народы, якія не ведаюць сваёй сапраўднай гісторыі, асуджаны на згасанне".

Намеснік старшыні Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Іван Яновіч падкрэсліў, што ідэю канферэнцыі "нарадзіла" таварыства "Алкестыда", а Дзяржкамітэт і Інстытут гісторыі яе актыўна падтрымалі. Але "Алкестыда" ў сваіх намерах ішла далей: члены таварыства прапаноўвалі правесці цэлую сумесную экспедыцыю па значных гістарычных мясцінах Беларусі. Іван Яновіч не выключае, што магчыма гэта будзе наступны крок у агульных дзеяннях.

Апошнім часам на Беларусі ладзіцца нямала мерапрыемстваў, прысвечаных нацыянальным культурам народаў, што насяляюць тэрыторыю краіны. Садзейнічае падобным ініцыятывам Дзяржкамітэт. Калі тая ж грэчаская дыяспара выказала пажаданне весці ўрокі грэчаскай мовы, былі закуплены адпаведныя падручнікі, ідзе пошук настаўнікаў. Як толькі падрыхтоўка завершыцца, сказаў І. Яновіч, адразу пачнуцца заняткі.

**Галіна ХВЕСЬ.**

**РАДАВОД**



# МЯНУШКІ

Цікавая назва нашай вёскі — Пярэдзелка. Вядома, яна з'явілася ад слова "перадзел". Што, калі і як, каго ні пытаю, дасканала не ведаюць.

Што засталося, дык гэта прыгожы маёнтак у стылі класіцызму, напэўна канца XIX — пачатку XX стагоддзяў.

У вёсцы ніколі не было царквы. Зараз такі час: усе будуюць новае ці адраджаюць старое. Зрабілі так: пад царкву аддалі будынак, у якім раней быў сельсавет, потым клуб, потым атэлье. Над дахам прыбудавалі невялікі гранёны купал. Вось вам і царква. Святары гавораць, што на нашых жыхароў няма Бога, таму што тут была першая камуна ў раёне. Быццам з таго часу ўсе сталі бязбожнікамі.

Што б ні гаварылі, але нашы людзі самыя лепшыя. Вельмі шмат з аднолькавым прозвішчам. Вядома, так у кожнай вёсцы, але спытай, напрыклад, Ліпскага Івана, адразу ў адказ: "Які Іван?" Таму што ёсць тры Іваны: адзін Бадзян, два Марынічы. Вядома ж, гэта мянушкі. Сын і ўнук бабы Марыны сталі Марынічамі. Расказваюць, калі трэці Іван быў яшчэ зусім малы, убачыў, што ў агародзе гаспадарыць кабан, прыбег дамоў і крычыць: "Маці, у агародзе бадзян!" З таго часу прайшло каля сямідзесяці год, а мянушка засталася.

Маладая жанчына Таццяна не працуе, любіць выпіць, за гадзіну можа некалькі разоў вёску прабегчы з аднаго канца ў другі. Цяпер усе яе ведаюць, як Тарпеду.

Вельмі шмат Івахненак, а вёска кожнага ведае толькі як Балабай, Буглак, Вазбесар, Сізы, Шабета. Мікола Лыська ніколі не быў лысым, а дзед Антон і баба Хрысця — Лекалы, Маша ўсё ведае — Адукаваная, Валера служыў на флоце — Матрос. А яшчэ ёсць баба Каза і Чуда, Паляк і Ельза, Валя Копчыха і Піцяць.

Ніякія не родзічы, а з аднолькавым прозвішчам Цярэшчанкі, Цыркун Пятро, Шапохміны, Вокля Вера. У Міколы маці Зінаіда, дык ён Зініч. Іван кульгае — Чапяла, яго сын курчавы, чорны — Грэк.

Маркавец Валодзя без нагі — Пірат, Антоненка Мікола — Жучка, яго суседка — Лупка, Атрошчанка Іван — Кот.

Света Пасталоўская жвавая, худая, як тая рыбіна, дык так і ёсць — Таранка. У Шуры Склемы жонка Акцябрына, зараз Шура — Акцябрынін. А яшчэ ёсць Склемы: Цюрык, Ёрзал, Калясачка, Здрык.

Ігнаценка Міхаіл вёў заняткі ў школе. Заўсёды гаварыў вучням: каб зрабіць нешта з дрэва, дык трэба яго абцясаць — Цёса.

Цётка Дуня такіх вялікіх памераў, што нават цяжка хадзіць. Стала Белкай.

Цімошчанка Віктар працаваў у лесе — Лясун. Кашперка Мікалай хадзіў заўсёды ў ваенным адзенні — значыць, Лейтэнант. А яшчэ Кашперкі ёсць: Курда, Шманька, Шпітро, Пунька, Пінька і Шакал.

У Алены не было дзяцей, а яна трымала вялікую гаспадарку, як хамут, надзела на сябе, адсюль мянушка — Конь.

Жыў у вёсцы Максім Смальцар, дапамагаў немцам у час вайны. Партызаны акружылі дом, а ён у труне ляжыць, пайшлі прэч — ажыў, прыліпла мянушка Пакойнік.

Быў такі выпадак. У нас доўгі час працавала настаўніца. Прыходзіць неяк яна да жанчыны і пытае: "Таварыш Грэбка, не малі б прадаць малака?" Тая адказвае, што малако ёсць, але яна не Грэбка, а Калядзенка.

Дваракоўскія Мікалай — гэта Гірой, Уладзімір — Дзюндзюр. Калядзенкі Іван — Шмардэла, Валера — Заяц.

Большасць і не ведаюць, адкуль пайшлі гэтыя мянушкі: Панцюх, Паралка, Лабанка, Мышка. Часцей пераходзяць ад бацькоў да дзяцей. Шмат якія не маюць ніякага дачынення да асобы: Ёсель, Буська, Перчык, Бабешка, Сроль, Дамкрат, Пыцкі...

Вядома, раней з кожным нешта адбылося, і так слова прыліпла, што многіх даўно няма, а ўспамінаюць толькі па мянушцы: Бек, Бозыль, Морык, Сырнік, Суста, Карэба, Унучак, Пепка, Трэтка.

Калі хто піша ліст родным, дык, вядома, не называе прозвішча. Ніхто не ведае, хто такі, а па мянушцы адразу ўспомніць.

Уяўляеце сабе, каб узяць ды зрабіць у вёсцы музей усіх людзей, якія там жылі і жывуць па сённяшні час. З фотаздымкамі і абавязкова з мянушкамі. Напэўна, было б вельмі цікава, а галоўнае: такога нідзе няма.

**Ігнат СТУДЗЕНЬ.**
*Малюнак Вячаслава ІГНАЦЕНКІ.*

ХРЫСЦІЯНСКАЯ СТАРОНКА «ЖЫЦЦЁ І ВЕРА»

# ТЫСЯЧАГОДДЗЕ ПА-ЛЯВОНПАЛЬСКУ



Такога маштабнага свята вёскі, як у Лявонпалі, бадай, не было. Заварожвала, што адзначалася тысячагоддзе. Ехалі людзі з усяго раёна аўтобусамі, аўтамашынамі, на конных павозках, матацыклах і веласіпедах, ішлі пешшу. Па некаторых падліках, набралася каля дзвюх тысяч чалавек — на кожнага местачкоўца па два дзесяткі прыезджых. Калі ў гэтым і ёсць перабольшванне, то невялікае. На ўсіх святкаванне зрабіла ўражанне масавасцю, цікавым спалучэннем багатага мінулага і дня сённяшняга, шматпланавасцю мерапрыемстваў.

З нагоды дня святых першавярхоўных Апосталаў Пятра і Паўла ў праваслаўнай царкве адбылася традыцыйная ўрачыстасць. Набажэнства вёў міёрскі благачынны протаіерэй Мікалай Рунда. У каталіцкім касцёле ксёндз Уладас Пятрайціс таксама сабраў на імшу вернікаў. У гэты ж час у створаным ім музеі радзімазнаўства праводзіў экскурсію ініцыятар святкавання 1000-годдзя, вядомы беларускі паэт Сяргей Панізьнік. Ён гаварыў: "Лявонпаль — гэта музей пад адкрытым небам. Гэта наша не маленькая, а вялікая радзіма. Мы вельмі багатыя, бо нам ёсць што паказаць". І сапраўды, невялічкі пакой ужо стаў цесным для сабраных экспанатаў. А мясцовыя жыхары імкнуцца больш расказаць пра сваю вёску, пра сваіх продкаў. Нават у час экскурсіі Сяргею Сцяпанавічу паднеслі два здымкі, датаваныя 1921 годам, калі 3 мая ля знакамітай калоны ўшаноўвалася яшчэ больш знакамітая канстытуцыя Рэчы Паспалітай 1791 года.



*Помнік-калона ў гонар канстытуцыі 3 мая 1791 года.*

А потым вернікі з харугвамі з царквы і касцёла, наведвальнікі музея і гандлёвых радоў сабраліся ў цэнтры Лявонпаля да помніка 65 воінам і партызанам, якія загінулі, вызваляючы гэты край.

Праваслаўныя і каталіцкія святары правялі тут богаслужэнні. Пазней абедзве калоны вернікаў аб`ядналіся, наперадзе побач рушылі праваслаўныя і каталіцкія харугвы. Дарэчы, менавіта гэты момант сімвалічнага яднання двух адгалінаванняў хрысціянства аказаў на ўдзельнікаў і гледачоў самае вялікае і, дадам, прыемнае ўражанне. Упэўнены, такой масавай калоны Лявонпаль яшчэ не бачыў. Людзі ішлі на асвячэнне крыжа, зробленага падобным на крыж Ефрасінні Полацкай, які аднолькава шануецца праваслаўнымі і католікамі. Дарэчы, гэты крыж выраблены на заводзе шкловалакна ў Полацку. Вышыня крыжа сем метраў, вага — 450 кілаграмаў. Праваслаўныя і каталіцкія святары асвяцілі крыж, такім чынам, у Лявонпалі з`явіўся яшчэ адзін помнік, да якога не зарасце сцежка памяці.

Мясцовы настаўнік гісторыі, краязнаўца Вітольд Ермалёнак правёў экскурсію да калоны, прысвечанай канстытуцыі 3 мая 1791 года. Цяжка разглядзець арла, які калісь быў на версе гэтага збудавання, але ўвогуле яно мае значна лепшы выгляд, чым на здымках 1921 года.

Для свайго часу ўзвядзенне калоны было вельмі патрыятычнай справай. Распрацаваў праект і ўвасобіў яго ў жыццё ўладальнік Лявонпаля тых часоў Ян Нікадзім Лапацінскі. На адкрыццё прыехалі прадстаўнікі з Варшавы, біскуп з Вільні, сабралася ўся навакольная шляхта. Увогуле гэта быў своеасаблівы сход будучых удзельнікаў паўстання Тадэвуша Касцюшкі. Многія з іх потым занялі высокія пасады ў паўстанцкім руху. Вітольду Антонавічу давялося адказаць на мноства пытанняў цікаўных удзельнікаў свята не толькі з нашага раёна, але і з замежжа.

Свята працягвалася на сцэне, абсталяванай на беразе Дзвіны за Белым палацам. "Фэст у Лявонпалі" адкрыла танцавальная група. Праграма ўключала інсцэніроўкі падзей далёкай мінуўшчыны, бытавыя сцэнкі местачковага жыцця, іншыя нумары мастацкай самадзейнасці.

— На Падзвінні няма больш такіх мясцін, як Лявонпаль, — адзначыў са сцэны загадчык аддзела археалогіі і жалезнага веку Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, кандыдат гістарычных навук Вадзім Шадыра. — Таму сённяшняе свята не столькі тысячагоддзе вёскі, колькі славянства і хрысціянства ў гэтых мясцінах.

У Лявонпалі адбылося светлае, добрае свята. Яно сімвалічна аб`яднала сённяшнія імкненні мясцовых жыхароў з тысячагадовымі традыцыямі славянства і хрысціянства.

**Леанід МАТЭЛЕНАК.**
**Фота Сяргея ПАНІЗЬНІКА.**





*Асвячэнне крыжа.*

МОЛАДЗЬ І РЭЛІГІЯ

# КОПІЯ БЫВАЕ НЕ ТОЛЬКІ СКАЖОНАЙ, АЛЕ І ПАЧВАРНАЙ

*Апошнім часам можна чуць развагі пра тое, што людзям на постсавецкай прасторы нестае духоўнасці, нібыта нішчыцца той маральны стрыжань, выкол якога звычайна мацуецца жыццё кожнага здаровага грамадства, што ранейшая вера "ў камунізм" адышла ў нябыт, а на яе месца нішто іншае не прыйшло, і гэты вакуум спусташае душы і сэрцы многіх з нас, у першую чаргу — моладзі.*

*У пэўнай ступені апору ў падтрыманні духоўнага і душэўнага стану людзей прапаноўвае царква. Але ці і ёй усё па сілах у пануючай атмасферы бязвыхаднасці і нявер`я? Што трэба рабіць дзяржаве і грамадству ў такіх умовах? Якую небяспеку павінны прадугледзець настаўнікі моладзі? Размова пра гэтую найскладанейшую праблему ішла на адным з нядаўніх пасяджэнняў "круглага стала". Удзельнікі абмеркавання — супрацоўнікі Дзяржкамітэтаў па справах рэлігій і нацыянальнасцей і па справах моладзі Рэспублікі Беларусь, свяшчэннаслужыцелі абедзвюх традыцыйных на Беларусі канфесій — праваслаўя і каталіцтва — выказвалі свае меркаванні, апасенні, прапановы. Ніхто не заставаўся абыякавым: узнятыя праблемы зрабіліся надзвычай вострымі і балючымі.*

**Вячаслаў САВІЦКІ, кансультант аддзела па справах рэлігій Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі:**

— Статыстыка сведчыць: больш складаная сітуацыя складваецца сярод моладзі. Дарослыя так ці інакш, але ўжо вызначыліся ў сваіх жыццёвых і духоўных прыярытэтах. А вось маладыя людзі, як гаворыцца, — на раздарожжы. У выніку яны робяцца лёгкай здабычай рознага кшталту дэструктыўных сект, якіх апошнім часам расплодзілася надзвычай шмат і якія праяўляюць вялікую актыўнасць.

У адным з раёнаў Мінска ў школах праводзілася апытанне, і вось што высветлілася: амаль чвэрць апытаных школьнікаў ведаюць пра дзейнасць Аум Сінэрыкё, больш за 35 працэнтаў — так званага "Белага брацтва", а пра "сатаністаў" чулі ці ведаюць практычна 80 працэнтаў вучняў.

Нездарма ў дэструктыўных рэлігійных арганізацыях ёсць правіла: з людзьмі, старэйшымі за 30 гадоў, не працаваць. Таму гэтыя "дзеячы" пад рознай маркай пранікаюць ва ўстановы сістэмы народнай адукацыі, і найперш — у школы. І робяць гэта досыць лёгка, не шкадуюць ні грошай, ні часу. Напрыклад, могуць запрасіць на так званы семінар аж на цэлыя суткі! І тут ужо апрацоўка будзе весціся па поўнай праграме. Практыка паказвае: каб потым вырваць маладога чалавека з павуціння такой секты, спатрэбіцца не меней двух гадоў, прычым пры вельмі сур`ёзнай рабоце ўрачоў, родных, сяброў і калег.

Пакуль у параўнанні з суседнімі краінамі ахоп моладзі сектамі на Беларусі ніжэйшы: самыя вялікія секты налічваюць 200—300 чалавек, а ў сярэднім — прыблізна па 20 чалавек. Але і гэтыя лічбы ўжо выклікаюць значную занепакоенасць.

**Людміла БАРАЎКО, начальнік аддзела па справах рэлігій Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей:**

— У 1998 годзе праводзілася таксама апытанне сярод студэнтаў Белдзяржуніверсітэта, Брэсцкага універсітэта, радыётэхнічнага каледжа і адной з гімназій у Мінску. Усім задавалася пытанне: "Ці верыце вы ў Бога?" Станоўча на яго адказалі 46 працэнтаў апытаных студэнтаў БДУ, 51,9 працэнта — у Брэсце і 27 працэнтаў навучэнцаў каледжа.

Калі веруючых, па іх словах, маладых людзей папрасілі вызначыць сваю канфесійную прыналежнасць, гэта здолелі зрабіць толькі 29,8 працэнта апытаных у БДУ, 23 — у Брэсце, 46 — у каледжы.

Якую ж выснову з усяго сказанага можна зрабіць? Сумную: моладзь, нават веруючая, не ведае, у што яна канкрэтна верыць. І гэта вельмі небяспечна.

**Уладзіслаў ЗАВАЛЬНЮК, ксёндз-магістр, пробашч касцёла святых Сымона і Алены ў Мінску:**

— Я хачу правесці паралель з мастацтвам, дзе ёсць адна сапраўдная карціна ці скульптура і шмат рэпрадукцый, копій. Нешта падобнае адбываецца і ў рэлігіі. Чаго толькі зараз ні напрыдумляюць! Напрыклад, у Маскве ўжо існуе "Евангелле ад Васіля"... Канешне, праблема тут ёсць, і сядзець склаўшы рукі нельга. Наколькі я ведаю, у Літве, напрыклад, усе рэлігійныя арганізацыі альбо адносяцца да традыцыйных накірункаў, альбо маюць сто гадоў (!) ад першапачатковай рэгістрацыі. Згадзіцеся, падобныя падыходы — нядрэнная заслона ад розных махляроў.

Акрамя таго ў нас становішча ўскладняецца з-за невялікай колькасці святароў. Мы падлічылі: на тысячу беларускіх дзяцей толькі адзін свяшчэннік. Як жа тут дайсці да кожнага? А каталіцкіх святароў і таго менш: у Мінску, напрыклад, толькі восем! І яшчэ: нам не хапае адкрытасці, шчырай адкрытасці да хрысціянства з боку самога народа. Пакуль шмат для каго вера, рэлігія — нешта накшталт гульні, забавы, у лепшым выпадку — працэс станаўлення.

Мы ж імкнемся трымаць дзверы касцёла адчыненымі для ўсіх, я ўпэўнены, што няма сапраўднага касцёла без мастацтва, культуры. Музыка, харалы прысутнічалі тут заўсёды, але мы ў сябе дадалі яшчэ тэатр, нават батлейку. У нас працуюць пяць дзіцячых і падлеткавых мастацкіх калектываў, больш за 400 дзяцей ад 6 да 17 гадоў летась наведвалі нядзельную школу. Наш касцёл сабраў добрую бібліятэку з 12 тысяч экземпляраў выданняў, яна носіць імя Адама Міцкевіча. Бібліятэка існуе ўжо тры гады і мае паўтары тысячы пастаянных наведвальнікаў. Гэта тое, што тычыцца хлеба духоўнага. Але не забываемся мы і пра хлеб штодзённы: зусім нядаўна адкрылі яшчэ адну дабрачынную сталоўку для бедных.

А ўвогуле, лічу, выцягваць людзей, і моладзь у тым ліку, з духоўнай бездані — агульная хрысціянская справа: і католікаў, і праваслаўных.

**Віталь ХАРЫТАНОВІЧ, свяшчэннік Свята-Петрапаўлаўскага сабора ў Мінску:**

— Праваслаўных свяшчэннікаў у Мінску прыблізна каля паўсотні, але — падтрымаю айца Уладзіслава — гэтага вельмі мала. І нават тыя, што ёсць, зведваюць цяжкасці, калі хочуць прыйсці ў школы: звычайна яны атрымліваюць тут адмову. Выключэнне, хіба што, толькі некаторыя недзяржаўныя навучальныя ўстановы. Разам з тым у царкву прыходзіць шмат людзей, якія пацярпелі ад дзейнасці секты "сатаністаў", вельмі пашыранай сярод падлеткаў і моладзі. А Закон Божы нідзе не вывучаецца. Канешне, мы, са свайго боку, імкнемся неяк процістаяць дэструктыўным сектам. У саборы, у прыватнасці, штотыднёва праводзяцца маладзёжныя сустрэчы. Але пакуль няма спецыялістаў для работы з тымі, хто ўжо сутыкнуўся з сектамі. І без падтрымкі дзяржавы тут не абысціся.

* * *

*Як бачна з прыведзеных меркаванняў, "дыягназ" захворвання зразумелы. Зараз трэба тэрмінова пачынаць лячэнне, пакуль хвароба не перайшла ў хранічную, а магчыма і невылечную форму.*

Падрыхтавала
**Галіна УЛІЦЁНАК.**

АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ

# РЫФЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУЧАННЯ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

● Галіна УЛІЦЁНАК.

Наступіў новы навучальны год. Ужо прайшла яго першая чвэрць, і ў поўную моц акрэсліліся наяўныя тэндэнцыі і праблемы: у нечым для ўсіх агульныя, а ў пэўных момантах — свае, спецыфічныя.

Напярэдадні, яшчэ летам, мне давялося сустрэцца і паразмаўляць з настаўніцай беларускай мовы з Бельск-Падляскага, актывісткай беларускай супольнасці беластоцкага краю Тамарай Русачык. Пані Тамара прыязджала ў Мінск у складзе польскай дэлегацыі для работы сумеснай кансультацыйнай камісіі па пытаннях школы для беларускай меншасці ў Рэспубліцы Польшча і польскай меншасці ў Рэспубліцы Беларусь. На пасяджэнні камісіі, дзе дазволілі прысутнічаць журналістам, стала зразумелым: нягледзячы на дружалюбную, знешне амаль сяброўскую атмасферу сустрэчы, пэўныя "падводныя рыфы" ў гэтай агульнай беларуска-польскай плыні існуюць. У прыватнасці, нельга было не адзначыць некаторыя метамарфозы, што адбываліся з польскімі гасцямі пры абмеркаванні двух бакоў адной праблемы: цвёрдасць і канкрэтнасць, калі размова тычылася вывучэння польскай мовы ў Беларусі, і нечаканае з'яўленне бюракратычнага флёру (прынамсі, у мяне асабіста склалася менавіта такое ўражанне), як толькі заходзіла гаворка пра адукацыйныя патрэбы беларускай меншасці ў Польшчы. І вось тут вельмі вылучалася пазіцыя Тамары Русачык, якую, бадай, адзіную з усяго складу польскай дэлегацыі, па-сапраўднаму хвалявалі сённяшні дзень і будучыня беларускай школы на Беласточчыне, дзе, як вядома, кампактна пражывае беларуская меншасць у Польшчы.

На тым пасяджэнні ў ходзе дыскусіі польскія госці пацікавіліся, ці атрымае кожны настаўнік польскай мовы на Беларусі неабходныя праграмы і падручнікі. Мікалай Фяськоў, начальнік Упраўлення агульнай школьнай адукацыі Міністэрства адукацыі Беларусі паабяцаў: так, канешне. Ну а якое ж становішча ў настаўнікаў беларускай мовы ў Польшчы? Пані Тамара Русачык ведае сітуацыю не па расказах, а, як кажуць, знутры.

*— Спадарыня Тамара, ці хапае вам кніг, дапаможнага матэрыялу, тых жа падручнікаў?*

— Беларускіх матэрыялаў нам у школах не хапае. Падручнікі выдаюцца, але вельмі рэдка і не перавыдаюцца ўвогуле. Выйшлі дзве кнігі летась: для 5-га класа (мова, літаратура, чытанне — усё ў адным, мы не дзелім паасобку, урокі інтэграваныя), дзе я, дарэчы, аўтар, і для 6-га класа базавай школы. Але калі прасачыць агульную карціну, то падстаў для аптымізму няшмат.

Дарэчы, спачатку беларускія падручнікі друкаваліся чорна-белыя, на найгоршай паперы. Я дабілася колеру, і мой падручнік "Заранaчка", выдадзены ў 1993 годзе, — гэта першы каляровы падручнік па беларускай мове ў пачатковай школе. Пасля "Заранaчкі" пабачыла свет "Сябрынка" для 4-га класа, потым "Літарынка" — сшытак практыкаванняў для 2-га класа і далей тое, што я ўжо казала: для 5-га і 6-га — "Вяснянка" і "Крынічка". Заўважце: на працягу васьмі гадоў нам выдалі толькі пяць пазіцый!

Зараз у Польшчы адбываецца школьная рэформа: першыя шэсць год — базавая школа, яшчэ тры гады — гімназія і наступныя тры — ліцэй. Дык вось, па беларускай мове гімназія не мае ніякіх навучальных дапаможнікаў, і ў бліжэйшыя гады там настаўніку давядзецца працаваць, як ён сам здолее: міністэрства не забяспечыла нас ні падручнікамі, ні праграмамі.

Я ўжо падрыхтавала тры чвэрці падручніка для першага года навучання ў гімназіі. Планавалася выдаць яго ў Беластоку, ужо была і дамоўленасць з адным з мясцовых выдавецтваў. Але раптам даведалася, што Міністэрства адукацыі Польшчы вырашыла перанесці ўсё ў Варшаву. Нават не параіўшыся з намі. Але ж у беластоцкім выдавецтве ёсць адпаведныя спецыялісты, там працуюць беларусы, якія штодзённа чуюць беларускую мову, з'яўляюцца членамі беларускага асяроддзя і ведаюць яго патрэбы, у беластоцкім універсітэце — кафедра беларускай культуры, дзе пры неабходнасці можна хутка атрымаць патрэбныя кансультацыі. Так, у Беластоку дагэтуль не выдавалі школьных падручнікаў. Аднак тут выходзяць кнігі, альбомы, і нам паабяцалі добрую паперу, высокую якасць друкавання.

У Варшаве ў выдавецтве ніхто не ведае беларускай мовы: ні рэдактар, які займаецца падрыхтоўкай нацыянальных падручнікаў, ні асоба, што робіць камп'ютэрны набор... Гэтаксама падбіраюцца і рэцэнзенты — навукоўцы з іншага асяроддзя, якія проста не разумеюць нашых патрэб. Напрыклад, яны думаюць, што ў нас на Беласточчыне беларуская мова квітнее: вучань прыходзіць і ўжо ўсё ўмее, таму яму трэба адразу падаваць навуковую граматыку...

Але ж мы бачым, што найперш усіх дзяцей трэба ўвесці ў беларускую мову, бо рэальна яны — польскамоўныя, пабеларуску разумеюць, але як дыялект, што чуюць на вёсцы, калі прыязджаюць туды да сваіх дзядуль і бабуль. Хаця і на вёсцы тыя ж дзядулі і бабулі ўсё болей размаўляюць з унукамі па-польску...

Таму мы і хочам узяць справу ў свае рукі. Няўжо ж гэта немагчыма? Мы самі ў стане вырашаць свае праблемы. Навошта нас "ашчасліўліваць"? Але гэта ёсць палітыка: вядома ж, што значыць асвета. Прычым, такія адносіны не толькі да нас, беларусаў, але і да іншых нацыянальных меншасцей. Таму не дзіўна, што бывае нават такое: палітыкі правага крыла прыязджаюць да нас у Беласток і аб'яўляюць: "Польшча — выключна для палякаў".

Зараз атрымліваецца, што дзеці, якія вывучалі беларускую мову ў базавай школе, трапляючы ў гімназіі, больш ніколі не сустракаюцца з ёю. Разумееце: ніколі! Бо там дырэктары не праяўляюць добрай волі, каб увесці беларускую мову ў праграмы.

Возьмем, напрыклад, дзяцей з Рыбалаў. З цягам часу яны трапляюць у Заблудаўскую гімназію. А ў Заблудаве, я ведаю, ніхто ніколі не будзе вучыць па-беларуску дзяцей беларусаў.

Выкладання ўсіх вучэбных дысцыплін на беларускай мове няма ў ніводнай школе. Нам кажуць: маўляў, самі беларусы не хочуць. А як гэтага захочаш, як распачнеш такое навучанне, калі нават на беларускую мову як прадмет падручнікаў не хапае?! Прымушаць бацькоў мы не можам: навучанне беларускай мове ў нас адбываецца на прынцыпах добраахвотнасці.

*— Ці хапае добраахвотнікаў?*

— Сёння мы маем іх каля чатырох тысяч. Але з-за таго, што з кожным годам няўхільна змяншаецца колькасць школ, дзе выкладаецца беларуская мова, скарачаецца і колькасць навучэнцаў.

*— Ці вядома вам, колькі ў Польшчы школ, дзе хоць у якой ступені вывучаецца беларуская мова?*

— Пакуль на тэрыторыі 14-ці гмін ёсць 38 базавых школ, 12 гімназій і 2 ліцэі, дзе вядзецца навучанне беларускай мове. На жаль, ужо вядома, што з 1 верасня колькасць базавых школ зменшыцца... Дарэчы, і я як метадыст па беларускай мове хутчэй за ўсё больш працаваць па гэтай спецыяльнасці не буду: стаўка ліквідуецца з-за "немэтазгоднасці". Хаця на справе нашым настаўнікам вельмі патрэбна менавіта метадычная дапамога, асабліва зараз, у час рэфармавання. Тым больш. што далёка не ўсе настаўнікі з'яўляюцца спецыялістамі: нярэдка ўрокамі беларускай мовы яны дапаўняюць сваю асноўную нагрузку па іншых дысцыплінах. Так, яны ведаюць мову, але на ўзроўні таго, што вывучалі ў пачатковай школе і ліцэі, таму да вядзення ўрокаў многія проста не падрыхтаваны. Калі яшчэ па асноўнай спецыяльнасці педагог — настаўнік пачатковых класаў, то ён мае сваю методыку навучання мове. Але хімік, фізік ці матэматык?..

Выкладчыкі рускай мовы таксама вядуць беларускую. У гэтым выпадку ўвогуле ўсё калечыцца: і прадмет, і вучні, якія ў выніку не ведаюць ні рускай, ні беларускай.

Дарэчы, выкладанне рускай мовы ліквідуецца масава. Яна застаецца толькі там, дзе не могуць знайсці настаўнікаў англійскай ці нямецкай. Гэта таксама, лічу, неразумная палітыка.

*— Канешне, найперш трэба, каб беларусам беларусы дапамагалі...*

— Дапамогу з Беларусі час ад часу атрымліваем: і падручнікі, і мастацкую літаратуру. Але ж мы разумеем цяжкасці эканамічнай сітуацыі на Беларусі і не можам шмат патрабаваць.

* * *

***Мінуў час, як адбылася гэтая гутарка з Тамарай Русачык. Вельмі хацелася б даведацца пра сённяшні стан спраў у беластоцкіх беларусаў і іх дзетак. Магчыма і сама пані Тамара адгукнецца: паведаміць пра лёс свайго новага падручніка, напіша, як ідуць справы ў школе. Мы будзем удзячныя, тым больш, што рэдакцыю шчыра цікавіць сітуацыя з адукацыяй у месцах кампактнага пражывання беларускай дыяспары. Мы прапануем настаўнікам з іншых беларускіх школ праз нашу газету падзяліцца з калегамі ўласным вопытам, а, магчыма, і нечым набалелым. Можа, з падключэннем "калектыўнага розуму" і праблемы вырашацца хутчэй.***

ФЕСТЫВАЛІ



# «АРТ-СЕСІЯ» Ў ГОМЕЛІ



● Сяргей ХАЛАДЗІЛІН, БелТА.

**У Гомелі прайшоў IV Міжнародны маладзёжны фестываль "Арт-сесія", на які акрамя беларускіх з'ехаліся музычныя і харэаграфічныя калектывы з Шатландыі, Даніі, Германіі, Італіі, Латвіі, Швецыі і, канешне ж, бліжэйшыя суседзі — расіяне і ўкраінцы. Сёлетні фестываль, ініцыятарам якога, як і раней, з'яўляецца культурны цэнтр Гомельскага універсітэта імя Ф. Скарыны, ужо крочыў далёка за універсітэцкія сцены: адкрыццё яго адбылося ў абласным драмтэатры, а праходзілі мерапрыемствы фестывалю на ўсіх канцэртных пляцоўках Гомеля. А некаторыя калектывы, у тым ліку і замежныя, ездзілі з канцэртамі па вобласці.**

**У рамках "Арт-сесіі" ў гэтым годзе ўпершыню было вырашана правесці і "Арт-галерэю". У розных мастацкіх салонах Гомеля мастакі, фатографы і майстры бодзі-арта прадставілі свае лепшыя работы.**

**НА ЗДЫМКАХ: самая юная ўдзельніца — 7-гадовая Вольга САЦЮК з Кобрына; шатландцы з горада Абердзіна, пабраціма Гомеля; на сцэне — гаспадары фестывалю "Радзімічы" з Гомельскага універсітэта імя Ф. Скарыны.**



ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

## ЛІТВА

На пачатку восені група актывістаў ТБК здзейсніла цудоўную вандроўку на Беларусь: Рукойні — Свіраны — Жупраны — Кушляны. Мясціны Францішка Багушэвіча. Нашымі экскурсаводамі былі Алесь Жамойцін — апантаны багушэвічазнавец і кніжкі Уладзіміра Содаля.

Вярталіся не толькі поўныя ўражанняў ад пачутага і ўбачанага, але яшчэ прывезлі некалькі стужак з фотаздымкамі, відэафільм.

Нам, віленчукам, імя Ф. Багушэвіча асабліва дарагое. Яго жыццё цесна звязана з Вільняй. Тут ён жыў доўгі час, вучыўся, працаваў, тварыў. У Вільні на Бернардзінскіх могілках пахаваны яго брат Апалінар. Могілкі даўно не дзейнічаюць. Цяпер магілу Апалінара таксама ніхто не ведае. На Дзяды я пайшла на Бернардзінскія могілкі і паклала кветкі.

**Леакадзія МІЛАШ.**

Вільня.

## ЗША

Вельмі паважаная рэдакцыя! Атрымаў ліст з Ангельшчыны з паведамленнем, што "Голас Радзімы" апублікаваў мой артыкул "Пячатка Усяслава". Мне хацелася б прачытаць мой артыкул, і дзеля гэтага зварочваюся да Вас з просьбаю прыслаць "Голас Радзімы" № 36.

Я, пачынаючы з 1965 года, рэгулярна атрымліваў Вашу газету і быў шчыра ўдзячны. Пасылаў Вам свае артыкулы, і Вы друкавалі. Аднак, пачынаючы з 2000 года, высылку газеты спынілі. Адчуваю пакрыўджанасць, але пагадзіўся з лёсам.

Сёння вырашыў напісаць Вам ліст і папрасіць прыслаць мне газету з маім артыкулам. Спадзяюся, што задаволіце маю просьбу, а я буду шчыра ўдзячны Вам.

З пашанаю да Вас

**Міхась БЕЛЯМУК.**

**АД РЭДАКЦЫІ.** *Удзячныя за цікавасць да газеты. Просьбу вашу выканалі.*

ЛІТАРАТУРНАЯ СТАРОНКА

# ДЗІКІ ВЕЦЕР

Алесь ВЕТАХ

АПАВЯДАННЕ

— Зараз абсохне двор, зацвітуць вішні. Я выведу цябе на лаўку, і ты будзеш сядзець на сонейку. Вясна, як доктар, цябе вылечыць, от паглядзіш. І не думай паміраць! — суцешліва гаварыў і падбадзёрваў сын, быццам не чуў, пра што казала маці.

А тая наказвала і настаўляла Валянціна, нібы малога, раіла, як трэба яму жыць на гэтай зямлі, як трымацца сярод людзей, пра што дбаць і клапаціцца. Ведама, якая гэта маці, прадчуваючы свае апошнія ўздыхі, не будзе трывожыцца пра лёс адзінага сына. Толькі, мусібыць, жанчына з адзервянелым і невідушчым сэрцам.

— Глядзі сябе, сынку. Не спяшай сунуць голаў пад абух. Азірнешся — а жыць няма калі. Сцеражыся ваўчугаў у чалавечай адзежы, — гэта ж, пэўна, яна казала пра Крываротава і падобных да яго. — Ад тых шкадобы не даклічашся. Бач, як ты пацярпеў, колькі марнуешся, сябе зводзіш, а толку ніякага, і праўды не знойдзеш. Спадзеўку, даражэнькі, на Бога май і да добрых людцаў цягніся. Не сварыся на цэлы свет, бо нічога з гэтага не будзе. І яшчэ, сынку. Жаніся з Хрысцяй. Яна, хоць і была замужам, ды мо і не такая кепская, як думалася мне, старой і дурной. Нямашака калі жыць, унукаў ужо не прычакаю. Табе заставацца ў адзіноце і нэндзе нельга. Прападзеш адзін. Клапаціся пра Хрысцю і ейную дачушку. І гукні яе, хай прыйдзе, не баіцца...

Адразу пасля гаворкі з Валянцінам маці стала спакойнаю, больш амаль не гаварыла, ляжала ў задуменні, ускінуўшы ўгару вочы, у якіх згінулі іскрынкі жыцця. Маўчаў і ён, адчуваючы яе стомленасць пасля такой узбуджанасці і душэўнай расхваляванасці. Ён сышоў з матчынага пакоя на кухню, запаліў цыгарэту і сеў каля печы. Вочы яго былі мокрыя, у іх стаяў вялікі смутак. Ярковіч адчуваў безнадзейную роспач, бо не ведаў, што яшчэ можа зрабіць, каб уратаваць маці. Доктар пасля ўчарашняга агляду яшчэ раз пацвердзіў, што хвароба моцна запушчаная і невылечная, ад яе чалавек проста згарае, як той матылёк на агні. Не дапамаглі ні Бараўляны, ні тыя дарагія лекі са сталічнай аптэкі, ні зёлкі цёткі-знахаркі з-пад Нясвіжа. Валянцін ездзіў да аднакурснікаў, уплывовыя родзічы якіх працавалі ў розных медыцынскіх установах, каб як мага хутчэй прабіць шлях на лячэнне ў бараўлянскую бальніцу, а таксама дастаць дэфіцытныя прэпараты. Сын мог хіба цешыць сябе адным: прыклаў усе сілы і намаганні, каб дапамагчы маці адужаць хваробу, якая аказалася каварнай і неадольнай. Ён зноў і зноў задаваўся пытаннем: за што і хто так карае роднага чалавека, вясковую жанчыну, якая не жыла, а толькі гаравала на гэтым свеце — зведала сіроцтва, голад, нястачы, безграшоўе...

Калі Валянцін вазіў маці па бальніцах і дактарах, сюды-туды матляўся ў дарозе, Хрысця прыходзіла і глядзела гаспадарку. У яе захварэла дачка, якая моцна тэмпературыла і бясконца кашляла, як у бяздонную бочку. Хрысця спяшала ў трывозе з аднаго канца вёскі ў другі, шыбала, як падмеценая, і таму, каб менш зважаць на людскія вочы. Ярковічыха ведала, што дачка Іваніцкага застаецца за гаспадыню, і не пярэчыла ўжо гэтаму. Праз любоў да сына яна не прымала Хрысцю. Ды і хіба магла яна мірыцца і радавацца, калі яе сын, малады дырэктар школы, пачаў губляць галаву, упадаючы за Раманавай дачкой, пра якую ніхто не ведаў, ці яна замужам альбо не. "Хіба табе дзевак мала? — недаўменна пытала маці і казала сыну:

— Бяры якую настаўніцу. Будзеце разам працаваць. Адзін клопат мецьмеце. Разам пайшлі ў школу і разам вярнуліся". Зараз маці перамяніла стаўленне да сынавай абранніцы, і Ярковіч падумаў, што трэба ім, Валянціну і Хрысці, моўчкі сысціся, каб спыніць на вёсцы бясконцыя абгаворы ды шэпты. Хаця, зрэшты, прадчуваў, што на прапанову перабрацца да іх у хату тая будзе аднеквацца: не такая яна бяздумная і эгаістычная, каб у цяжкую і сумотную хвіліну вырашаць свой лёс.

Маці ўжо стамілася ад лютай хваробы, не чаплялася за жыццё, думала і прасіла аднаго — смерці. Але пакуты яе доўжыліся і рабіліся невыноснымі. Пры яснай памяці маці яшчэ паспела папрасіць, каб Валянцін паклікаў з суседняй вёскі бацюшку, бо яна хоча паспавядацца. Ён ужо не думаў ні пра дырэктарскую пасаду, ні пра свой кандыдацкі білет у партыю, ні пра якія магчымыя наступствы. Мусіць, на добры розум, дык трэба было б папрасіць у раёне на тое дазвол, каб запрасіць да маці святара на перадсмяротную споведзь. Але ён не стаў доўга разважаць, нешта пракручваць ды меркаваць, бо матчына слова для яго было святое. Царквы ж камуністы баяліся, як чорт ладана: які-небудзь недалёкі перастрахоўшчык мог бы і не дазволіць ехаць у Цялядавічы па папа, а так, думалася, мо пранясе і яго ніхто не выдасць. Ярковіч жа не на хрэсьбіны гукаў бацюшку, а да цяжка хворай маці. Нішто не страшыла Валянціна, і ён у нейкім прыўзнята-ўзрушаным стане падаўся на аўтобусны прыпынак.

Колькі часу бацюшка адгаворваўся ехаць, спасылаўся на пільныя клопаты, праз якія ён мусіць неадкладна выпраўляцца ў епархію. Перш сказаў, што зможа наведаць хворую толькі праз два дні. Але, калі пачуў, што тая саслабла, зусім ніякая і проста можа не прычакаць споведзі, то завёў свой "жыгуль", і яны як бачыш былі ў Румкевічах. Маці, учуўшы басавіты голас бацюшкі, крыху павярнула голаў у іх бок, і ўзбуджаны зірк яе вачэй гаварыў пра вялікую ўдзячнасць.

Да Валянціна, які з заміраннем сэрца сядзеў на кухні, даносіўся зусім невыразны матчын шэпт. Але, калі пачаў чытаць малітву бацюшка, то яго густы манатонны голас пацёк і ў яго душу, разварушваў свядомасць: "...Владыко Господи Боже, услыши мене, грешнаго и недостойнаго раба Твоего, в час сей и разреши рабу Твою Евгению, нестерпимыя сея болезни и содержащия ею горькия немощи, и упокой ею, идеже праведных дуси. Яко Ты еси упокоение душ и телес наших, и Тебе славу возсылаем, Отцу и Сыну и Святому Духу, ныне и присно, и во веки веков. Аминь". Пасля таго, як цялядавіцкі поп, папраўляючы на чорнай расе бліскучы срэбны крыж, сеў у машыну і паехаў, на душы ў Валянціна зрабілася неяк лягчэй, мусіць, ад адчування, што выканаў апошнюю матчыну волю. Маці суціхла, ужо не стагнала цэлую ноч. Назаўтра сказала, што хоча глынуць хоць лыжачку цёплай вары. Але палёгка была кароткай, хвароба брала сваё, усё мацней хаўрусавала са смерцю, і гэта не давала спакою, палохала яго, Валянціна, які беспрастанку падыходзіў да маці, адгукаўся на яе просьбы. Кожны дзень, нават кожная хвіліна абвастралі адчуванне набліжэння развітальнай жалобы ў хаце.

Страшэнна змарнелая маці перастала паворочваць галаву. Яна ўжо даўно не брала ў рукі абразок святога Панцеляймона, не шаптала ўтрапёна малітву, з цяжкасцю раз-пораз дыхала. Позірк яе вачэй гаварыў пра адлучанасць ад гэтага свету. Прыйшла медсястра і ў апошні раз зрабіла ўкол з моцнай дозай наркотыку. Для Валянціна, які ні на момант не адыходзіў ад матчынага ложка, тая ноч цягнулася як вечная пакута. Ён сядзеў, уткнуўшыся тварам у калені, і ў гэтым цяжкім прыгнечанні ад згасання жыцця роднага чалавека страчваў адчуванне сябе самога...

Ужо на дварэ добра развіднела, калі Валянцін крыху ачомаўся, пачаў варушыцца і гукаць людзей. Разам з суседзямі і настаўнікамі, якія прыйшлі на помач, ён, здавалася, зладзіў усё для хаўтураў. Не хапала толькі машыны, якую замовіў у калгасе яго завуч. Грузавік не прыходзіў, і ў нядобрым прадчуванні Валянцін пачаў нервавацца: мусіць, гэта Крываротаў так яму "спачувае", хоча пакавітацца. Пры хаце стоўпілася нямала люду, недзе больш за паўвёскі прыйшло на праводзіны Ярковічыхі ў гэты апошні зямны шлях. Налятаў парывісты і золкі вецер, пачаў накрапваць дождж. А машына недзе затрымлівалася. Па канцах апушчаных бартоў трэба было прыбіць елачкі, а яшчэ паслаць на дне кузава дыван. Данесці труну з нябожчыкам да могілак, якія ляжалі далёка за вёскай, было няпроста.

Валянцін перапытаў у завуча, даволі рухавага, энергічнага мужчыны, ці не пераблытаў ён, замаўляючы ў калгаснай канторы машыну, час пахавання, ці папрасіў, каб прыслалі бартавы "уазік" ці "газон", у якіх не дужа высокі пад`ём. Ды, як на бяду, машына не ішла, а труну з нябожчыцай пара ўжо было выносіць з хаты. Ярковіч пачаў кідацца ў розныя бакі, шукаючы ратунку з гэтай сітуацыі. Валянцін і тыя, хто дапамагаў у адправінах, згубілі апошнюю надзею, калі ў расхрыстаных варотах вымкнуў вялізны і высокі цёмна-зялёны "ЗіЛ", увесь брудны і заляпаны граззю. Машына сярдзіта гула і чадзіла з выхлапной трубы, як капцілка.

З грукатам расчыніліся барты — і дзесяткі людскіх вачэй убачылі, што ў кузаве пасярод свежага каравяку і ўтаптанай саломы валяліся абрыўкі вяровак і жалезныя ланцугі: па ўсім відаць, нядаўна на грузавіку некуды перавозілі скаціну. Наўкола пачулася ахканне. На Ярковіча ўмомант накацілася брудна-пякучая хваля сораму, ён не ведаў, што рабіць, як рэагаваць на такое, у яго, як у дзіцяці, пакаціліся слёзы. Хацелася знікнуць з вачэй аднавяскоўцаў і калег, некуды пабегчы ад такога ганьбавання ў гэты скрушны дзень. Але нехта моцна сціснуў яго далонь, зусім побач шаптаў-падказваў: "Трымайся, Валя! Трымайся, даражэнькі!.." Ён, аглушаны і амаль у беспрытомнасці, толькі потым убачыў, што пад руку яго падтрымлівае Хрысця. Ярковіча, як п`янага, хістала па баках, ён не мог супакоіцца, бо выразна бачыў уваччу чорны і мурласты твар Крываротава, які зларадна смяяўся-рагатаў. У Ярковіча міжвольна вырвалася: "Божа! Уратуй і памажы!.."

...І хоць вясна набірала моц, Валянціну не верылася ў гэтую сонечную цяплынь, у спагаднасць і прыхільнасць свету. Але ён зноў і зноў думаў пра сваю школу, настаўнікаў і суседзяў, якія дапамаглі пахаваць маці, пра Хрысцю, якая зараз мусіць адходжваць застуджанае дзіця. Валянцін разважаў пра чалавечае жыццё, вірлівы час і сябе, пра іх забыты Богам калгас і людзей на гэтай зямлі. У ім расло адчуванне, што не варта катаваць і выпальваць сваё нутро ў смутку і пакутах. Адназначна ён ведаў адно: трэба ісці да людзей, школьнай дзятвы, у вясну, у іх агульную з Хрысцяй будучыню. Дзікага, шалёнага ветру, які расхіствае і нявечыць свет, Ярковіч ужо не баяўся.

Заканчэнне. Пачатак у № 45.

ВЫСТАВЫ







## МАСТАК Уладзімір БУЗІКАЎ І ЯГО ФАНТАЗІІ.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.

АНШЛАГ

## ШТУРХАЎСКАЯ «ЛАДДЗЯ»

Жодзінскі гарадскі тэатр "Штурх" наладзіў цесныя кантакты з тэатрамі Віцебска і Маладзечна. Падпісаны дамовы аб супрацоўніцтве, і хутка жыхары Жодзіна ўбачаць творчасць гэтых калектываў, а тэатр "Штурх" парадуе віцяблян і маладзечанцаў. Тэатр "Штурх" атрымаў запрашэнне на ўдзел у святкаванні 70-х угодкаў з дня нараджэння У. Караткевіча, якое праходзіць у лістападзе гэтага года ў Оршы. Акцёры "Штурха" пакажуць спектакль па творы У. Караткевіча "Ладдзя Роспачы", які на рэспубліканскім фестывалі "Тэатральная вясна-2000" прызнаны лепшым.

Віктар ЯГОРЧАНКА.

## АДНОЎЛЕНЫ ТРАБУШЭТ





Фота Віктара ТАЛОЧКІ.

У Мінску рыцарскім клубам "Ордэн Паўночнага Храма" прадэманстравана ў дзеянні камнекідальная машына XII стагоддзя — трабушэт. Яна адноўлена энтузіястамі клуба Уладзімірам Залескім і Міхаілам Мацвеевым. Трабушэт здольны кідаць пяцікілаграмовыя снарады на 120 метраў. Акрамя дэманстрацыі машыны, адбыліся паказальныя рыцарскія баі, выступленні музыкантаў і танцораў.

НА ЗДЫМКАХ: дэманстрацыя трабушэта; дзяўчаты ў касцюмах XII—XV стагоддзяў.

## ГАСЦЁЎНЯ

# «НЯГЛЕДЗЯЧЫ НІ НА ШТО»

*Аляксей Шадзько запрасіў сваіх паклоннікаў у канцэртную залу "Мінск" на канцэрт і прэзентацыю новага альбома "Нягледзячы ні на што". Традыцыя запісваць новыя альбомы ў нас прыжываецца неяк не вельмі ўпэўнена. Аляксей — адзін з нямногіх артыстаў, якія рэгулярна абнаўляюць свой рэпертуар. Як яму гэта ўдаецца, мы і паспрабуем даведацца.*

**— Аляксей, вы запісалі ўжо пяты альбом, у той час як усе артысты так скардзяцца на "піратаў". А вы іх не баіцеся?**

— Запісваць альбомы — мая прафесія. Гэта ж і адзіная крыніца маіх даходаў. Таму я буду выпускаць альбомы, нягледзячы ні на што.

**— Вашу творчасць прынята называць некамерцыйнай. Аднак вы адзін з нешматлікіх артыстаў, якія рэгулярна выпускаюць альбомы, якія да таго ж добра прадаюцца. Размовы пра некамерцыйную музыку — рэкламны трук?**

— Не. Любы поспех у нашай справе можна назваць камерцыйным. Проста артысты розных жанраў зарабляюць па-рознаму: нехта менш, нехта больш. Мае альбомы прадаюцца, на канцэрты ходзяць — не магу паскардзіцца. З другога боку, я займаюся мастацтвам і пішу песні, абсалютна нічога не пралічваючы. У гэты момант мяне зусім не цікавіць, прынясе песня даход ці не. Я перад сабой стаўлю задачу паказаць у песні тое, што адбываецца ў мяне ўнутры. Кожны мой альбом — гэта захаваны ў сэрцы адрэзак жыцця. "Нягледзячы ні на што", напрыклад, пра тое, што я стаў больш дарослым, стаў лепш разбірацца ў людзях. Некаторыя рэчы ў зносінах з людзьмі перасталі быць для мяне тайнай. Цяпер я дакладна ведаю дарогу, па якой мне трэба ісці. Нарэшце я набыў сапраўдных сяброў. Мне стала цікава жыць.

**— Ці адчуваеце вы на сабе кіруючую сілу лёсу?**

— Не. Я не прызнаю ніякіх гараскопаў, збегу зорак і таму падобных "цудаў". Усё, што адбываецца, — гэта вынік затрачаных намаганняў.

**— Што ж у такім выпадку вас натхняе, калі не цуды?**

— З кожным чалавекам пастаянна нешта адбываецца. Я для сябе фіксую моманты, якія мяне цікавяць, а потым зашыфроўваю гэта ў вобразах. Ва ўсіх людзей праблемы падобныя, але вырашаюць яны іх па-рознаму. Нехта пакутуе, а нехта ставіцца да ўсяго па-філасофку. Вось гэта мяне і цікавіць — індывідуальная сістэма ўзаемаадносін з жыццём.

**— Вы выклікаеце ўражанне досыць сур'ёзнага чалавека. Няўжо ў вас зусім ніякіх дзівацтваў няма? Бо гэта ж уласціва паэтам — быць крышачку як не з гэтага свету.**



— Я абсалютна нармальны. Дзівацтвы? Не ведаю, ці можна гэта так назваць. Напрыклад, у дзяцінстве я ўпаў з веласіпеда і трохі пагнуў кола. Можна было б ездзіць і так. Але я не супакоіўся да той пары, пакуль мне яго не параўнялі. А для гэтага давялося нямала пахадзіць па майстэрнях. Ёсць людзі, для якіх важныя ў першую чаргу функцыянальныя якасці рэчаў, а я вельмі перажываю за эстэтычны бок. Я гатовы нагружаць сябе лішнімі праблемамі, толькі б тое, што навокал мяне, мела такі выгляд, як трэба.

**— У вас ужо склалася ўласнае ўяўленне аб уладкаванні быцця?**

— Па праўдзе кажучы, што такое быццё, я не ведаю. Затое я зразумеў нешта іншае. Магчыма, некаму гэта здасца банальным, але я зразумеў, што па-сапраўднаму багаты не той, у каго шмат грошай. І наадварот — міліярдэр можа быць бедным унутры. Мяне ў гэтым пераканаў жыццёвы вопыт. Сапраўднай прыгажосці вельмі шмат навокал, і каб яе ўбачыць, патрэбны не грошы, а тонкае ўспрыманне.

**— Давайце пагаворым аб вашым новым альбоме.**

— Давайце...

**— Мне здалося, што ў вашых новых песень ёсць агульная тэма: вы быццам не зусім рады знаходзіцца сярод людзей. Гэта значыць, вы, канешне, з намі яшчэ крыху пабудзеце, а потым, калі зусім надакучыць, — на Марс...**

— "Я адлятаю на Марс" (назва песні) не таму, што я лепшы за ўсіх, а таму, што зразумеў: я такі, як ёсць, сам па сабе нікога не цікаўлю. Таму я пакідаю тут усё, што прынята лічыць каштоўным, а сам адлятаю. Каму цікава, што ў мяне ўнутры? Часам пра чалавека ў першую чаргу мяркуюць па тым, колькі ён зарабляе.

**— Вы зараз пра альбом гаворыце? Ці да жыцця ў вас такія сур'ёзныя адносіны?**

— Я тлумачу вам сэнс песні, хаця даўно ўжо зразумеў, што гэта рабіць бессэнсоўна. Калі некаму нешта незразумелае — гэта не праблема аўтара. Я, напрыклад, многае не разумею ў вершах Бродскага. Яго прынята лічыць геніяльным паэтам, а я проста не разумею сэнсу некаторых фраз. Але хто можа ўявіць сабе Бродскага, які цярпліва тлумачыць той ці іншы вобраз усім някемлівым?

**— Ёсць людзі, якія дабіваюцца самых неверагодных мэтаў таму, што кожную секунду да іх імкнуцца. А ёсць яшчэ такія, хто верыць у прымаўку: "Адпусці мару, і яна да цябе сама вернецца". Вы да якога тыпу людзей належыце?**

— Да тых, хто дабіваецца свайго ўпартай працай. Калі сядзець, пакутаваць і скардзіцца на жыццё, удача ніколі не ўсміхнецца. Не ўзнікне ў яе прычыны для ўсмешкі.

**— Які ж вы правільны, проста дзіўна...**

— Вам не спадабаўся мой альбом?

**— Ну чаму ж. Толькі ён, на мой густ, празмерна мужчынскі.**

— Што ж у гэтым здзіўляючага? Я ж мужчына.

**— Вось-вось, я якраз пра тое ж. Як жа гэта вы пры ўсёй вашай папулярнасці ў жаночага пола да гэтага часу не парадавалі журналістаў нейкім скандалам?**

— Якія скандалы вас цікавяць?

**— Напрыклад: "звёў нявесту з-пад вянца"...**

— А, гэта... Значыць, вы дрэнна працуеце. Калі гаварыць сур'ёзна, то ад мяне вы не пачуеце ніякіх сакрэтаў пра асабістае жыццё. Не думаю таксама, што нехта з маіх сяброў стане гаварыць на гэтую тэму. А спецыяльна прыдумваць нешта пра сябе з разлікам, што гэта пападзе ў газеты, мне нецікава.

**— Але ж гэта сусветная практыка — штучна падаграваць спажывецкую цікаўнасць напярэдадні важных падзей, такіх, напрыклад, як выхад новага альбома.**

— І што ж, мне дзеля таго, каб альбом лепш прадаваўся, ажаніцца з Элеанорай Язерскай (*вядомая тэлевядучая музычных праграм*)? Мая задача якраз у тым, каб напісаць такія песні, якія б не мелі патрэбы ні ў якіх дадатковых рэкламных прыёмах. І мне здаецца, што пакуль гэта атрымліваецца.

**— А чаму вы не скардзіцеся на адсутнасць у нас сапраўднага шоу-бізнесу? Гэта ж любімая тэма размоў у многіх артыстаў.**

— У мяне няма прычыны скардзіцца на што б там ні было. У мяне ўсё добра.

Гутарыла
**Ганна ШАДРЫНА**, "СБ".

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 43

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ. 1. Годнасць. 3. Рэйка. 4. Сіло. 6. Здарэнне. 7. Праля. 8. Крыніца. 9. Цыраванне. 11. Навіна. 14. Кош. 15. Гадзіна. 16. Зенка. 17. Патуранне. 19. Іржа. 20. Нядзеля. 22. Кубак. 24. Лютасць. 26. Паліва. 27. Адзінота. 28. Лік. 29. Гародніна. 30. Узгорак.**

**ПА ВЕРТЫКАЛІ. 1. Глог. 2. Сядзіба. 3. Раніца. 4. Спазненне. 5. Журавіны. 7. Паводзіны. 10. Рабаванне. 11. Назоўнік. 12. Сшытак. 13. Жвавасць. 17. Пляшка. 18. Пернік. 21. Сажалка. 23. Брама. 24. Ланцуг. 25. Цацка. 26. Палац.**

## КРЫЖАВАНКА АД Ірыны БЕКІШ

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 7. Афрыканская драпежная птушка. 8. Шматгадовая лекавая расліна сямейства складанакветных. 10. Рыбалоўная снасць у выглядзе сеткі. 11. Паўпразрыстая рыбападобная марская жывёліна тыпу хордавых. 12. Дробнае насякомае-шкоднік. 15. Заліў у нізоўях ракі. 18. Рака ў Экватарыяльнай Афрыцы. 19. Аднагадовая расліна сямейства гарбузовых. 20. Каменная глыба з крутымі схіламі. 21. Плод капусты. 24. Каштоўны ядомы грыб. 26. Асадкавая горная парода, багатая на крэменязём. 27. Дробная бесхрыбетная кішачнаполасцевая прэснаводная жывёліна. 30. Даўгахвосты папугай. 31. Самапісны прыбор для бесперапыннага кантролю вільготнасці паветра. 32. Прыток Волгі. 35. Расліна ніжэйшага тыпу. 36. Вялікі ўчастак зямной або воднай паверхні.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Род травяністай расліны сямейства першакветных. 2. Рэальная або легендарная падзея, ад якой вядзецца летазлічэнне. 3. Спецыяльная вайсковая група. 4. Рускі хімік-арганік. 5. Дэталь машыны, якая верціцца на апорах і прыводзіць у рух звязаныя з ёю часткі. 6. Навука аб жывой прыродзе. 9. Вонкавы слой лупіны цытрусавых, а таксама высушаная і расцёртая лупіна як прыправа. 13. Адзіная зорная сістэма. 14. Травяністая, з непрыемным пахам расліна сямейства крыжакветных. 16. Паўднёвае лісцевае дрэва сямейства вязавых. 17. Цвіценне. 22. Польскі астраном. 23. Ядавіты сярэднеазіяцкі павук. 25. Газ без колеру і паху, які ўваходзіць у склад паветра. 28. Павойная расліна ў трапічных і субтрапічных лясах. 29. Горны алень. 33. Беспазваночная, пакрытая панцырам прэснаводная жывёліна з вялікімі клюшнямі ля галавы. 34. Востраў у Ціхім акіяне.



## УДАКЛАДНЕННЕ

У № 45 "Г Р" на першай старонцы апошні абзац у нататцы "Віват БДУ!" трэба чытаць: "Адкрыў помнік беларускім асветнікам рэктар Белдзяржуніверсітэта Аляксандр Казулін".

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК**. Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА**. Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА**. Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК**. Аглядальнік **Леанід МАРАКОЎ**. Спецыяльныя карэспандэнты **Яўген КАЗЮЛЯ**, **Алесь МЯСНІКОЎ**, **Нэлі ПРЫВАЛАВА**. Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК**. Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА**. Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ**.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 652 экз.
Зак. 2849.
Падпісана да друку 13.11.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).